Przegląd Wileński Sierakowskiego 21-6

Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару **10** гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4. | Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: | За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр.; за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош. |
|---|---|---|---|

№ 14 (66) | Вільня, 14-га чэрвеня 1935 г. | Год 3-ці.

# У справе аутономіі Беларусі.

АД РЭДАКЦЫІ. З прыемнасьцяй зьмяшчаем гэны артыкул, прысланы нам „тутэйшым" Палякам, каторы адзначаецца асаблівай шчырасьцяй і об'ектыўнасьцяй. Аўтар настолькі ўладае беларускаю мовою, што ягоны артыкул зьмяшчаем без ніякіх зьменаў і папраўак, пакідаючы польскія выражэньні так, як яны напісаны ў арыгінале.

З вялікаю ўвагаю сачыў я разважаньні над неабходнасьцяй выдзяленьня Заходняе Беларусі ў асобную аўтаномную адміністрацыйную адзінку. Цэлы рад артыкулаў „Роднага Краю" на гэтую тэму пераканалі мяне, што такая разьвязка гэтага пытаньня зьяўляецца сапраўды можа адзінай і слушнай і неабходнай. Сам я зьяўляюся Паляком, продкі якога аселі на беларускіх этнографічных землях ў другой палавіне XVI стагодьдзя і зусім зразумела, што ўважаю сябе за чалавека „тутэйшага" Маю, як бачыце і формальнае і моральнае права, нароўні з прадвечнымі гаспадарамі гэтае зямлі—Беларусамі, падаваць свой голас у справах датычачых мае бацькаўшчыны. І ня толькі я, але ўсе мы—„kresowe polacy" інакш на гэта заглядацца не павінны. І хоць па культуры і расавай прыналежнасьці мы засталіся палякамі, аднак псыхічна мы шмат розьнімся ад сваіх братоў з так званай „kongresówki" ці „Галіцыі і Пазнаншчыны. За сотні гадоў мы настолькі зжыліся што, як гэта ня дзіўна, у Варшаве чуемся быццам на чужыні тады, як у Вільні, Горадні ці Наваградку — як у сваёй хаце.

За так доўгі пэрыяд супольнага сужыцьця ў нас зьмянілася ня толькі псыхіка, але і мова. Мы гаворым папольску, але ў Варшаве не заўсёды нас разумеюць. Пазналі мы аднасасна і мову тутэйшую—беларускую і мушу прызнацца, што ўважаю яе такою-ж роднаю як і сваю—польскую. У гэтай мове мы гутарылі ад самага раньняга „dzieciństwa" — бо-ж чулі яе кругом заўсёды ня толькі паза домам, але часта і ў сваёй уласнай хаце побач з польскаю.

У сучасны момант, цікавячыся разьвіцьцём беларускай літэратуры, я пераканаўся яшчэ больш у тым, што аддзяліць ці аддзяліцца нам ад усяго тутэйшага народу — не магчыма. Тут жылі нашыя прадзеды, дзяды, бацькі, тут узгадаваліся і тут вырасьлі і мы, нашыя дзеці і ўнукі і на гэтай зямлі мы і памром. Мы тут ня чужыя — мы сыны гэтае зямлі і любім яе як сваю Бацькаўшчыну. Акром таго ўзаемнае праніканьне абедзьвюх культур — польскае і беларускае зайшло так далёка і так глыбока, што калі-б хто хацеў правесьці граніцу паміж інтэлігенцыяй польскай і беларускай у гэтым краі — то змушаны быў-бы праводзіць яе „przez łoże małżeńskie".

Перамяшалася ўсё тут ня толькі нацыянальна, але й вызнанёва. У шмат сем'ях спаткаем і каталікоў, і праваслаўных, і нават кальвінаў і ўсе яны жывуць у поўнай згодзе, шануючы ўзаемна і пераконаньні, і звычаі, і традыцыі адных і другіх.

Праўда, апошнімі часамі гэта згоднае сужыцьцё Палякаў з Беларусамі значна папсавалася і віну за гэта паносяць здаецца ў роўнай меры і адзін і другі бок. Па здабыцьці незалежнасьці, мы, Палякі, нейк забылі пра сваіх братоў—Беларусаў, заняўшыся, можна сказаць, сваімі асабістымі справамі.

Недастатачна зьвярнулі ўвагу ў сваім часе на прыхільныя і брацкія адносіны да Польшчы і Палякаў такіх перадавых адзінак беларускай інтэлігенцыі, як Тарашкевіч, Астроўскі ды інш. Не зьвярнулі ўвагі на заспакаеньне зусім слушных ды элемэнтарных патрэбаў беларускага народу і ўрэшце дачакаліся „Беларускай Селянска-Работніцкай Грамады"—організацыі—пад канец яе існаваньня — амаль зусім бальшавіцкай. З Беларускага боку таксама ня было адпаведнага зразуменьня вытварыўшагася па вайне стану рэчы, а захопленыя сваёю перамогаю падчас першых выбараў у Сойм ды колёсальным размахам сваёй „Грамады", Беларусы раптоўна павярнулі сваю палітыку амаль што на ўсе 180°, стаўшы фронтам на ўсход. Хітрая палітыка Саветаў з іх утварэньнем ды так званым пашырэньнем Савецкае Беларусі, яшчэ больш спрыялі да паглыбленьня той прорвы, якая ўтварылася паміж польскім і беларускім народам.

Калі-ж дадамо яшчэ да гэтага, што ў той час на чале польскай адміністрацыі стаялі людзі не разумеючыя ня толькі Беларусаў, але і нас „kresowych" Палякаў, дык зразумелым стане ўсё тое, што сталася.

Але ня мыляецца толькі той, кажа мудрая народная прыказка, хто нічога ня робіць. Былі памылкі як бачым і з аднаго і з другога боку. Наш абавязак цяпер прааналізаваць гэныя памылкі ды знайсьці конкрэтны выхад.

Мне думаецца, што калі сярод Беларусаў знайшлася такая група людзей, якая, не зважаючы на цяжкія для іх абставіны, мае цывільную адвагу шчыра і чэсна гаварыць аб неабходнасьці паразуменьня, стаўляючы крыж на ўсім прыкрым і крыўдным для іх мінулым, то абавязак Польскага Крэсовага Грамадзянства — бліжэй заняцца таксама гэтаю справаю.

Так, як калісь, у слаўнай нашай супольнай мінуўшчыне, для перагляду І Літоўскага статуту 1529 г. ўтворана была камісія, у склад каторае ўвайшлі людзі „яко з латінского так і греческого закону", людзі „добрыя і поважныя", якім даручалася: „тыі артыкулы, водлуг патрэбы і водлуг Бога і рэчы справедлівае, поправіті, а іншыі прычініті і на першым сойме перед паны радамі іх мілостью і всімі княжаты, паняты і всіх рыцэрства іх оказать, где потом через посполітый сойм, на што вся земля зволіт, мают оныі артыкулы быть ухвалены і прыняты з его мілосьті господарскім дозволеньем, што ся іх мілосьті слушнога будет відеті...", так і цяпер трэба ўтварыць такую мяшаную камісію з Палякаў і Беларусаў, якая-б занялася падгатоўкаю проекту аўтономіі Заходняе Беларусі.

Згаджаюся цалком з аўтарам артыкулу зьмешчанага ў № 13 (65) „Роднага Краю", дзе ён кажа, што справа тэрыторыяльнае аўтономіі для земляў Заходняе Беларусі аднолькава важна як для Беларусаў так і Польскае Дзяржавы.

*N—віч.*

# Сталінская расправа з Енукідзе.

У канцы траўня с. г. эўропэйскую прэсу абляцела чародная сэнсацыя з савецкага жыцьця: Сталін не затрымаўся перад арыштам „самога" Авэля Енукідзе, аднаго з відных старых бальшавікоў, нязьменнага сэкрэтара цэнтральнага выканаўчага камітэту саветаў усяго СССР.

Яшчэ 4 сакавіка бяг. году ў „Правде" і „Известиях" афіцыяльна было апублікована аб пераводзе Енукідзе на пост старшыні закаўкаскіх савецкіх соцыялістычных фэдэрацыйных рэспублікаў з адначасным звальненьнем яго, быццам па ўласнай просьбе, з пасады сэкрэтара ЦІК'у.

Як паведаміў у траўні месяцы корэспондэнт „Нэйе Фрэйе Прэссэ" Бассэхэс, Енукідзе абвінавачаны ў опозыцыйнай змове, у якую замяшаны таксама і загадчык бібліятэкі ЦІК'у Неўскі ды інш. працаўнікі гэтае ўстановы. Усе яны ўжо арыштованыя.

Ад сталінскае расправы не ратуе ніякі партыйны стаж. А стаж гэты ў Енукідзе не малы. Радзіўся ён у 1877 годзе і ўжо 17-гадовым юнаком пачаў партыйную працу сярод чугуначнікаў. У 1897 г. Енукідзе працуе сам, як чугуначны работнік. У 1898 годзе ён увайшоў у с.-д. партыю (бо „нарадзіны" самага расейскага бальшавізму датуюцца толькі з 1903 г.) і ўвесь час працаваў на Каўказе ды тагачасным Пецербургу, як партыец. Пяць разоў Енукідзе саджалі ў вастрог, пяць гадоў ён прабыў у ссылцы. У 1918 г. Енукідзе быў выбраны сэкрэтаром усесаюзнага цэнтр. вык. камітэту саветаў і ўвесь час займаў гэтае становішча, пакуль не папаў і ён на зуб усерасейскага Робэсп'ера—Сталіна.

Пішуць яшчэ таксама і аб тым, што Енукідзе быў у змове з опозыцыянэрамі цяперашняму савецкаму рэжыму, раней павыганянымі за граніцу.

# СССР уступае ў эпоху бонапартызму.

Корэспондэнт варшаўскае „Газэты Польскай" п. Отмар часта падае вельмі ўдачныя характарыстыкі савецкага жыцьця ў сваіх корэспондэнцыях з Масквы. Апошнім часам гэты корэспондэнт характарызуе сучасны этап савецкае палітыкі, як *палітыку адступленьняў.*

— У надзвычайна шпаркім адступленьні ад няжыцьцёвае доктрыны,—піша п. Отмар, — бальшавікі бязумоўна дасягаюць, з дзяржаўнага пункту гледжаньня, удачаў. Тое, што цяпер адбываецца, ёсьць нічым іншым, як прызнаньнем таго палажэньня рэчаў, якое рэальна існуе. Вельмі важным сымболем зьяўляецца замена ілюзорнага тытулу Сталіна, як „павадыра міжнароднага пролетарыяту" на іншы, больш дарэчны тытул: „павадыра народаў Савецкага Саюзу". Вельмі цікавою зьяўляецца таксама і адмова ад сямёх камінтэрнаўскіх лёзунгаў 1-га траўня ды замена, напрыклад, у „Комсомольской Правде"—словаў „рэвалюцыя", „камунізм" словам „бацькаўшчына".

У рэзультаце, у прамысловасьці атрымалася, замест соцыялізму — вельмі бязьлітасная, у адношаньні да працоўных элемэнтаў, форма зманапалізованага дзяржаўнага капіталізму. У сельскай гаспадарцы наглядаецца форма коопэратыўнае зерневое гаспадаркі і індывідуальнае гаспадаркі жывёлагадоўчае; пры гэтым варта зазначыць, што дасягненьні падобнага роду зьяўляюцца максімумам таго, да чаго можна змусіць селяніна.

У галіне чыста палітычнай шмат расчараваньняў дала цяперашняму рэжыму партыя, якая, як ведама, адна і кіруе ўсім жыцьцём СССР. Яна дайшла цяпер да ролі дастаўшчыка кадраў дзеля займаньня вышэйшых бюракратычных месцаў. Колькасьць яе сяброў адваротна-прапорцыянальная якасьці. Пры сучасным палажэньні партыя зрабілася зусім недастатачнай апораю рэжыму, як у колькасным, так і ў якасным сэнсе... Дзеля гэтага ўлада, бічкуецца, як у трасцы, шукаючы дадатковае апоры, гэтым разам—беспасярэдня ў арміі і ў грамадзянстве, прычым з ранейшаю сваёю апораю абходзіцца вельмі бесцэрамонна,— як, на прыклад, ліквідацыя таварыства старых бальшавікоў.

Цэнтр цяжару што раз дык выразьней пачынае перасоўвацца з „партыйнае лініі" на савецкія дзяржаўныя інстытуцыі. З нядаўнага часу мы зьяўляемся сьведкамі цеснага асабістага контакту Сталіна з чырвонаю арміяй. З прычыны 15-гадовага юбілею абароны Царыцына (цяпер Сталінград), у якой браў удзел Сталін, як тагачасны палітычны камісар паўдзённа-ўсходняга фронту,—вакол яго імя пачала стварацца „вайсковая легенда", якая, паводле думкі Отмара,—ня глецзячы на бліскучае мінулае Сталіна, была блізка што забытаю. У бягучым годзе Сталін усё часьцей ды часьцей круціўся сярод вайсковых. Яго дэмагогія аб бальшавікох партыйных і... беспартыйных з камплімэнтамі па адрэсе апошніх, яго кіданьне ў масы паняцьця „савецкага гуманізму" — ёсьць нічым іншым, як выцягваньнем рукі да арміі і грамадзянства, упяршыню праз галовы партыі. Няўжо-ж тутэйшы рашучы фактар зразумеў, да якое ступені партыя гэта непапулярная ў масах, асабліва сялянскіх, ды якую папулярнасьць можа набыць рэжым, зводзячы партыю з яе ранейшага п'едэсталу? — стаўляе пытаньне корэспондэнт.

Цьвяроза разважаючы, выхо-

дзіць, што інтарэсы рэжыму хутчэй пачынаюць зыходзіцца з інтарэсамі беспартыйных масаў, як з паглядамі партыйных доктрынэраў. Вось чаму Сталін шукае перш за ўсё беспасярэдняе апоры ў арміі, якая ўжо даўно пранята патрыятычнаю ідэолёгіяй, што зьяўляецца зусім натуральным і зразумелым. І яна бязумоўна, у працягу найбліжэйшага часу, будзе галоўнаю апораю сталінскае дыктатуры, прынамсі да таго часу, пакуль дэмакратызацыя ладу... расшырыць папулярнасьць рэжыму ў грамадзянстве, а час і „дыялектычны мэтод“ дасьць магчымасьць менш кампрамісовым партыйцам перахварэць... ну, хоць-бы дагавор аб узаемнай падмозе з Францыяй і Чэхаславакіяй, што зьяўляецца відавочнаю прычынаю браджэньня ў радох партыі, асабліва сярод „зьліквідованых“ (бяскроўна) „старых бальшавікоў“.

Чуткі і дагадкі на тэму „савецкага бонапартызму“ хадзілі ад часу закончаньня хатняе вайны. Называліся нават кандыдатуры ў асобах Тухачэўскага і Блюхера. А тымчасам адзіным рэальным кандыдатам аказаўся сам... Сталін. Гісторыя расейскае рэвалюцыі пачынае што раз дык выразьней уступаць у „бонапартыцкі пэрыяд“—нават у фармальным сэнсе...

## Цікавая статыстыка.

Адна з ангельскіх часопісяў апублікавала вельмі цікавыя дадзеныя аб тым, якія яшчэ дзівачныя людзі ёсьць у Велікабрытаніі.

Налічана, напрыклад, цэлых 8.000 чалавек сярэдняга веку, якія ніколі ня бачылі мора, хоць і жывуць на остраве.

Нядаўна ў адным з буйнейшых ангельскіх гарадоў — Бірмінгаме памёрла жанчына 82-х гадоў, якая ніколі ў жыцьці ня бачыла цягніка.

65% правінцыяльных жыхароў ніколі ня былі ў сталіцы, тымчасам як з ліку гэтых правінцыяльных жыхароў, нябыўшых у сталіцы, 20 процантаў жывуць у мясцовасьцях, паложаных менш як за 70 кілёмэтраў ад Лёндону.

У Ірляндыі некалькі сотняў чалавек ніколі ня чулі пра вялікую вайну.

Ува ўсёй Велікабрытаніі навучаньне — абавязковае, а тымчасам 450.000 чалавек ня ўмеюць ні чытаць, ні пісаць і сярод іх адзін мільянэр, які... падпісваецца крыжыкам.

25 процантаў ангельскіх жыхароў ніколі не карыстаецца ні самаходам, ні тэлефонам. 63 проценты жыхароў ніколі ня выяжджалі з Англіі. Каля мільёна ангельцаў ніколі ў жыцьці ня былі ў кінаматографе.

## Племя, дзе ўсім кіруюць жанчыны.

На граніцах Тыбэту жыве племя, захаваўшае матрыярхат. Нядаўна папаў туды адзін партугальскі падарожнік Гэнэц і патрапіў зьвярнуць на сябе ўвагу каралевы гэтага племя, якое называецца *голёг*.

Племя гэтае верыць, што жанчыне належыць перавага над мужчынай. Першым дзіцянём у кожнае жанчыны павінна быць дзяўчына, а ня хлопчык. Гэнэц прыпушчае, што ў голёгаў ёсьць нейкія спосабы наперад вырашыць пол будучага дзіцяці, таму што запраўды ў іх першым дзіцём заўсёды зьяўляюцца дзяўчынкі. А калі выпадкова родзіцца хлопчык, дык яго тайна адносяць у горы і пакідаюць на зьяданьне каршуном. Мужчыны займаюць падуладнае палажэньне. Яны спаўняюць чорную работу. Племя жыве разбоямі і каралева сама стаіць на чале сваіх бандаў. Усе камандзіры — таксама жанчыны.

## З ПРАВІНЦЫІ.

— *Слабада, Вішнеўскае вол.* 30 красавіка г. г. быў зладжаны ў в. Слабадзе спэктакль-вечарына з удзелам вясковых дзяўчат і хлапцоў. Былі пастаўлены дзьве п‘есы: адна на беларускім, а другая на польскім языку. Дамарослыя артысты згулялі свае ролі вельмі добра. Народу было шмат. Глыбока прамовіла да сялян гульня на родным языку. Моладзь пачала ўжо працу над пастаноўкай новых п‘есаў пад кіраўніцтвам К. Кастылёва, б. вучня Віл. Бел. Гімназіі, які вельмі шчыра аддаўся гэтай тэатральнай дзейнасьці.

*Прысутны.*

# Беларуская хроніка.

— У нядзелю, 16 г. м., а 11-ай гадзіне раніцы адбудзецца ў памешканьні Інтэрнату пры Віленскай Беларускай Гімназіі (Вострабрамская 9) агульны гадавы сход сяброў Беларускага Дабрадзейнага Т-ва.

Парадак дня прадбачыць:

1) Справаздачы Ураду і Рэвізыйнае Камісіі з дзейнасьці за мінулы год;

2) Справа ўдзяленьня абсолюторыюм уступаючым уладам Т-ва;

3) Выбары новых уладаў Т-ва на 1935/6 год;

4) Бягучыя справы.

— Як падае „Беларуская Крыніца з днём 25-V. г. г. перастаў быць сябрам т. зв. „Беларускага Нацыянальнага Камітэту“ — „Беларускі Сялянскі Саюз“, прадстаўніком якога быў пасол Ф. Ярэміч.

— 16 г. м. а 17-ай гадзіне Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы ладзіць у VI залі Унівэрсытэту рэфэрат на тэму: „Урадовы і літэратурны язык Вялікага Князьства Літоўскага. Памяткі беларускія і украінскія“. Рэфэрат прачытае Др. Я. Станкевіч.

— *Радыё-концэрт хору Р. Шырмы.* 26 гэтага чэрвеня ад гадзіны 15.30 да 16-ай на віленскай радыястанцыі мае выступіць беларускі хор пад рэгенствам Р. Шырмы з гэткаю праграмаю:

Песьні вясельныя: 1) „Ой, ляцелі гусанькі“ — гармонізацыі Рагоўскага; 2) „Ды хто па цёмным лесе гукае“ — гарм. Галкоўскага, прапяе хор; 3) „Сваток“ (солё-сопрано) — гарм. Анцава.

Песьні бяседныя: 1) „А за ліхімі, за марозамі“... і 2) «Ой па гарэ, па даліне» — гарм. Галкоўскага, які сам будзе акомпаньяваць на фортэпіяне дысканту (солё); 3) «Калыханка» — гарм. Грэчанінава; 4) «У чыстым полі каліна стаіць» (солё—барытон пад акомпаньямэнт хору) гарм. Уладзімірскага і 5) „Чорны вочкі пара спаць“ (солё—сопрано) — гарм. Галкоўскага.

— *Беларуская рапсодыя.* Сусьветнае славы композытар Аляксандар Грэчанінаў паведамляе ў прыватным пісьме да аднаго з сваіх віленскіх прыяцеляў, што ім нядаўна напісана „Rapsodie de la Blanche Russie“.

## Праўны куток.

**М. К., Паставы.** У адказ на Вашае пытаньне, як рэгулюе закон маемасныя правы бацькоў і дзяцей, падаем наступнае:

Да часу непоўналетнасьці дзяцей маемасьцю іх загадываюць бацькі, або апякуны.

Інакш справа прадстаўляецца з дзяцьмі поўналетнімі. Дзеці поўналетнія могуць заўсёды загадываць сваёю маемасьцю, але калі ідзе аб маемасьць бацькоў, то бярэцца тут пад увагу тое, ці яны выдзеленыя, ці не. Калі дзеці выдзеленыя, г. знача атрымалі ад бацькоў пэўную частку іх маемасьці, то яны зьяўляюцца яе поўнапраўнымі ўласьнікамі і могуць свабодна ёю распараджацца. З момантам выдзяленьня бацькі трацяць усе правы да выдзеленай часткі маемасьці і бяз згоды і дазволу яе ўласьніка ня могуць ужо больш ёю распараджацца. Калі-б бацькі, распараджаючыся самавольна выдзеленаю часткаю, спрычыніліся да стратаў, то адказываюць яны перад выдзеленымі дзяцьмі так, як зусім чужыя асобы. Аднак зусім выдзеленыя дзеці,—ў прыпадку, калі бацькі іх ня маюць сродкаў да пражыцьця,—абавязаны ўтрымоўваць бацькоў аж да іх сьмерці. Зьвольнены ад гэтага абавязку ўнукі. Разьмер алімэнтаў, належных бацьком, могуць быць азначаны шляхам супольнай дабравольнай умовы, аднак суд, у прыпадку ўзросту коштаў утрыманьня, можа іх падвысіць.

Поўналетнія нявыдзеленыя дзеці могуць толькі распараджацца сваёю маемасьцю. Да маемасьці бацькоў ніякіх правоў яны ня маюць.

**Васіль К., Маладэчна.** З Вашага пісьма ня можна добра зразумець характар Вашае ўмовы. Зазначаем толькі, што асобы, заключаючыя ўмовы праўнай натуры (прыкладам: умова пазычкі, прадажы, арэнды і т. п.), могуць праўныя суадносіны між сабой укладаць так, як ім выгадней і паводле сваіх жаданьняў. Гэта ёсьць так званая *вольнасьць умоваў*, якую прадбачыць і забясьпечвае 55 арт. Кодэксу Абавязаньняў з выняткам, калі ўмова не зьяўляецца недазволенаю. Паводле 55 і 66 артыкулаў гэтага-ж Кодэксу недазволенай умовай будзе тая, зьмест каторай або мэта скірованы процiў публічнага парадку, закону ці добрым абычаям. Прыкладам: умова, якая абавязвае другую асобу да кражы або да ня прыйманьня ўдзелу ў галасаваньні пры выбарах у Сойм, умова з праституткаю і т. п.

**Бажэнаў.**

# Шустрая бабулька.

### Камэдыя ў I акце.

Пераклад з расейскага *В. Г.*

(Гл. № 12 „Роднага Краю“).

Глоў. Ды гэта бяз рацэпту дадуць вы толькі запытайцеся: „шпанскую мушку“ дык у той момант і дадуць.

Ключ. Што вы гэта кажаце. Няведама што пяяце быцам яго самога муха ўкусіла... Я пытаюся ці не пакінулі вы чаго небудзь?

Глоў. Забыўся, панячка, забыўся аб важнай справе; добра што Саша прыпомніў. Бачыце, задаў ён мне такую задачу, што можа і вас самых заклапаціць.

Ключ. Ня можа быць?! Сядайце, мой даражэнькі, ды апавядайце ў чым справа (Сядаюць).

Глоў. Бачыце: мой Саша амаль што вырас разам з вашаю ўнучкай. Маладыя людзі так падружыліся, што ніяк ня хочуць разлучыцца — разумееце? Як-бы памагчы гэтай бядзе?

Ключ. Ну, што дзіўнага... справа звычайная... у дзяцей ўсё дзіцячае ў галаве.

Глоў. Бачыце ён мяне прасіў, пагаварыць з вамі, каб вы не перашкаджалі іх шчасьцю — разумееце?

Ключ. Разумею, даражэнькі, разумею. Гэтай бядзе можна памагчы.

Глоў. Як-жа гэта?

Ключ. А вось як... Глаша сама мне казала сёньня, што ёй вельмі сумна, няма з кім пагутарыць, пагуляць. Ну, ведама, што ня прыйдзе дзіцяці ў галаву... Аддайце, кажа, мяне замуж — такая распусьніца, вельмі шустрая. Дык гэтаму здарэньню я вельмі рада. Саша ў вас, я ведаю, разумненькае, спакойнае дзіця. Няхай сабе разам гуляюць.

Глоў. Як ён мяне прасіў: «жыць, кажа, не магу без яе, злучыце нас на векі».

Ключ. Вельмі добра. Мы гэта зробім, што яны заўсёды будуць разам.

Глоў. Як-жа гэта?

Ключ. А вось, як я надумалася. Вы ведаеце што пра майго мужа ужо дванаццаць гадоў, як ні слуху ні духу. Магчыма, што ён і памёр, мой залаты. Па закону я магу лічыцца сапраўднай удавой—ці-ж ня праўда?

Глоў. Магчыма, вельмі магчыма.

Ключ. Вы таксама ўдавец...

Глоў. (Выціраючы сьлезы). О-о-о-х.

Ключ. Досыць мы з вамі наплакаліся—вы па сваей жонцы, я па сваім... Ну, але ня ўвесь век бядаваць... Вы яшчэ ў самым росквіце і я не старая... У вас здаецца, зусім мала сівых валасоў...

Глоў. Ох, зараз ніякіх ня будзе, панячка.

Ключ. Кіньце, кіньце пра гэта гутарыць. Не з валасамі цэлы век жыць, а з добрымі людзьмі. Вы яшчэ хлапец хоць куды. Што, каб напрыклад, нам узяць шлюб.

Глоў. Што?.. Ня чую, панячка.

Ключ. Каб мы пажаніліся.

Глоў. Дазвольце, дазвольце... Вы згаджаецеся, каб сын мой жаніўся.

Ключ. Які сын? Сын ваш яшчэ малады, яшчэ рана... яшчэ яго пара ня прыйшла... А чаму я не магу быць вашай жонкай?

Глоў. Што вы — Бог з вамі. Ужо ня час думаць нам пра жаніцьбу.

Ключ. Ну, няма чаго сароміцца. Я даўно заўважыла, што я вам вельмі падабаюся.

Глоў. Што вы кажаце? Вы гэта выдумалі! Мне, нават, ніколі і ў галаву ня прыходзіла... Ну, які з мяне муж?

Ключ. Такі самы, які мне патрэбны...

Глоў. Зьлітуйцеся, што гэта вам прыйшло ў галаву.

Ключ. Што-ж, ці я ўжо такая старая, што не магу яшчэ выйсьці замуж...

Глоў. Ды выходзьце панячка, а мяне не чапайце.

Ключ. Ах, Божа-ж мой! Чаго вы гэта настаўляецеся. Мы з вамі равесьнікі, але паглядзеце, як я добра выглядаю: ні аднэй зморшчкі, ні аднаго сівога валаска. Я даражэнькі, не перабіраю, я ведаю, што вы чалавек добры, чэсны, спакойны. Вы таксама ня толькі са мной ўчора пазнаёміліся, больш, як 20 гадоў маім доктарам, прыяцелям, вы напэўна ведаеце маю натуру і мой добры характар... і ўсё іншае... Ну, што, галубок, адважцеся і зробім вясельле.

Глоў. Але-ж, панячка, я нічога не разумею. Гэта-ж з нашага вясельля і куры будуць сьмяяцца.

Ключ. Эх, даражэнькі, усім ніколі не дагодзіш!

(Працяг будзе).

# Гаспадарчы аддзел.

### Што рабіць, каб збожа не спапася.

Пасьля праліўных дажджоў або сільных ветраў часам можна заўважыць, што збожа у тых ці іншых месцах і ў большай ці меншай меры ляжа. Паслаўшаяся збожа часам ізноў выпростоўваецца, але так ці іначай ураджай ад гэтага церпіць. Якія-ж прычыны, што ня кожны збажовы пасеў аднолькава адпорны? — Галоўныя з іх наступныя: 1) за густы пасеў, 2) За лішня вільготная або гнаёная глеба, 3) хмарнае і вільготнае лета і 4) сорт збожа. Апрача таго, за надта плыткая апрацоўка глебы бывае часта прычынаю гэтага зьявішча.

Зразумела, што каб ня было такіх непажаданых з'явішчаў, трэба перш за ўсё пазбавіцца ад іх прычынаў, гэта знача, што ў дадзеным прыпадку ня трэба на добрай і гнаёнай зямлі густа сеяць, трэба старацца, каб на полі ня было за лішня вільготных месцаў і г. д.

Калі мы з тае ці іншае прычыны сваячасна ня здолелі спараліжаваць шкодных уплываў, то тагды астаецца толькі — каб ураtаваць пасеў—прыступіць да беспасярэдніх запабягаўчых сродкаў, хаця для росту і выдайнасьці расьлінаў яны ня вельмі карысныя. Да гэтых апошніх можна ў першую чаргу залічыць прырэзваньне збожа.

Жыта прырэзваць цалком не радзім, бо яно хутка каласуе і прырэзваньнем можна пакалечыць колас, які яшчэ толькі разьвіваецца. Пшаніцу можна прырэзваць сьмялей і таму гэты спосаб даволі часта практыкуецца. Прырэзваюць пшаніцу ў месяцах траўні і чэрвені. Работа гэта выконваецца сярпом і асьцярожна, каб не пашкодзіць схаванаму ў скручаным лісьце коласу.

Яравыя пасевы ў гэтым часе яшчэ не вялікія і валкам або бараною можна памагчы ім, каб яны не пасларіся. Баранаваць трэба так моцна, каб густы пасеў запраўды парадзеў. Калі збажына яшчэ не перарасла, то яе можна прыкатаць валкам; паслаўшыяся і памятыя расьліны пасьля паправяцца і стануць болей адпорнымі. Прыкатваньне мае значэньне у тых збажын, каторыя, як прыкладам ячмень, сільна кусьцяцца і кепскім баранаваньнем можна замест іх пасеў прарэдзіць, яшчэ больш згусьціць.

### Пазбаўляйцеся скарынкі на пасевах.

Пасьля раптоўных дажджоў зьяўляецца часта на паверхні глебы скарынка. Асабліва да гэтага маюць нахіл глебы глiністыя. Скарынка гэтая бязумоўна шкодная і таму трэба яе адразу нішчыць. У сучасную пару года найхутчэй можа зьявіцца скарынка на яравых пасевах. Ячмень і авёс заскарупелых глебаў вельмі ня любяць. Калі пасеў яравога збожа яшчэ за надта малады і слаба закаранёны, то, каб зьнішчыць скарынку, ужываецца зубаты валак. У старэйшых пасеваў скарынку можна нішчыць баранаваньнем. Баранаваць трэба моцна, асабліва ячмень. Авёс, які слабей кусьціцца чымсь ячмень, трэба баранаваць менш. Ня можна абмінуць і тое, што да разьбіцьця скарынкі трэба прыступіць сваечасна, пакуль паверхня глебы вільготная і скарынка лёгка рассыпаецца.

### Як ратаваць уздутую жывёлу.

Найчасьцей уздуцьце ў кароў бывае ад маладое канюшыны або вікі. Уздуваюць жывёлу таксама і пэўныя жалудачныя хваробы. Уздуцьце можа быць большае і меншае. На пачатку, калі ўздуцьце яшчэ не такое сільнае, жывёлу можна ратаваць звычайнымі сродкамі, але чым даўжэй пакідаем яе бяз помачы, тым гэтая помач становіцца труднейшаю.

Як толькі даецца заўважыць у жывёлы ўздуцьце трэба адразуж левы яе бок паліваць халоднаю вадою. Рух, а асабліва шпаркі, уздутай жывёле вельмі шкодны, бо ад яго ўздуцьце яшчэ, больш павялічваецца. Апрача таго, уздутую жывёлу трэба паставіць так, каб перад яе апынуўся на шмат вышэйшым роўні ад заду і сільна ўгнятаць рукамі яе бруха з левага боку. Вельмі добра ўліць у рот жывёлы літр вады, дадаўшы да яе перад гэтым дзьве лыжкі амоніяку. Калі амоніяку няма, то замест яго можна ў літр вады ўсыпаць адну лыжку разцёртае негашанае вапны. Кожны гаспадар на ўсякі прыпадак павінен мець заўсёды пэўную колькасьць дробна разцёртае негашанае вапны і перахоўваць яе ў добра зачыненай шкляной пасудзе.

У прадажы маюцца спэцыяльныя прылады для ратаваньня ўздутае жывёлы. Вельмі добрай лічыцца „Вулкан", якую ўсаджваюць глыбока ў рот хворай жывёлы і сабраўшыяся ў жалудку газы выходзяць праз яе навонак. Таксама добрай зьяўляецца асобая жалудачная труба, у сярэдзіне якой знаходзіцца трасьніковы прут. Трубу гэную асьцярожна пхаюць у рот аж да жалудка, пасьля выймаюць трасьніковы прут і сабраўшыяся ў жалудку газы хутка вылятаюць вон. Практычна ўпіханьне трубы праводзіцца наступным спосабам: спачатку ў рот жывёлы укладаецца папярок спэцыяльны з дзюркай у сяродзіне кавалак палена, а пасьля праз гэтую дзюрку упіхаецца труба.

У прыпадках вельмі раптоўных прабіваецца тракарам левы бок уздутай жывёлы на адлегласьці аднае далоні ад выступу бядровай косьці. т. зв. «клубу», у месцы найбольшага ўздуцьця. Калі тракару няма, то тагды трэба прабіць бок хаця-бы звычайным вузкім нажом.



## Мае успаміны аб Жылцы.

Не магу добра ўжо прыпомніць, калі і як сустрэўся я першы раз і пазнаёміўся з нябожчыкам Уладзімерам Адамавічам Жылкай. Помню толькі, што было гэта ў Менску ў часе бальшавіцкай акупацыі ў 1919 годзе. Жылка працаваў летам у сельска-гаспадарчай камуне Весялоўцы (б. дача банкіра Браўдэ, вярсты за паўтары ад гораду). Я быў настаўнікам, працуючы ў 22 беларускай школе на Аляксандраўскай вуліцы, але як сябра Рады БНР, разам з іншымі, лічыўся абвешчаным бальшавікамі *„внѣ закона"* і папасьць у рукі тагочаснае Чэ Ка для мяне азначала... ведама што азначала!

Жыў я на Міхайлаўскай вуліцы № 104 сярод мэнскага беларускага пролетарыяту; работнікі ведалі, хто і што я, але я верыў ім, што ня выдадуць, і не памыляўся.

Здарылася раз, што быў я на валасок ад таго, каб папасьць у рукі чрэзвычайкі. Яна шукала ўночы дэзэртыраў, якіх разьвялося бяз ліку шмат. А я, як былы афіцэр ваеннага часу, не рэестраваўся ў бальшавікоў і фармальна быў злосным дэзэртырам.

Аднаго дня зайшоў да мяне сусед—работнік з бровару Нужбіна і сябра народнага суда,—папераджаючы, што мне начаваць у сябе дома нярварта, бо мінулай ночай зравідована была ўся Міхайлаўская вуліца і налавілі шмат дэзэртыраў. Работнік гэты, як віцэ-старшыня дамовага камітэту (на некалькі дробных дамкоў), быў патрывожаны чрэзвычайкаю, каб быць панятым пры вобысках.

Дамок, у якім пражываў я, стояў на аднэй лініі з домам № 106 у глыбіні падворка і выглядаў, як халодны гаспадарчы будынак пры ім, бо цёмная ноч не дала п'яным чэкістым магчымасьці заўважыць над страхою каміны.

Падзякаваўшы добраму суседу, я выйшаў у горад, мяркуючы, дзе знайсьці начлег на некаторы час, пакуль Чэ-Ка робіць вобыскі напавал, дзякуючы сільнаму напору польскага войска на подступы да Менску.

Сустрэўся я з адным вядомым цяпер савецкім поэтам, якога, па зразумелай прычыне, не хачу называць, расказаў яму пра свой клопат, а ён мне раптам прапануе: — Едзем разам у Весялоўку, там ніякі чорт не дагадаецца, што мы не належым да настаўніцкага пэрсоналу сельска-гаспадарчае камуны.

Здаецца, што ў Весялоўцы я і сустрэўся першы раз з Жылкаю; ён там быў другім, малодшым настаўнікам.

Мы здружыліся, сплючы разам на шырокай скураной канапе і бродзячы па дарожках раскошнай калісьці банкірскай дачы, паложанай над самаю рэчкаю Сьвіслачай.

Жылка безьперастанку дэклямаваў вершы Блока, Брюсава, Раслаўлева, Карынфскага, Бальмонта, Сяргея Гарадзецкага. Мяне дзівіла гэткая маса завучаных ім напамяць вершаў, якія я ў значнай меры чытаў раней. Калі я загасьціўся ў Весялоўцы на цэлы месяц, пішучы пакрысе свой расказ „Ахвяра часу", дык нябожчык Жылка здорова такі абрыд мне сваімі дэклямацыямі. Пішу, напрыклад, а тут ён схіляецца над вухам і сваім ціхім машастовым голасам рэцытуе:

*„Ах мой синій, васильковый*
*Да шелковый поясок"...*

—Ды кінь ты ўсякіх Гарадзецкіх, — адгрызаюся я,—лепш вось гэта: *„Прощай, немытая Россія, страна рабов, страна господ"*...

Але Жылка ўжо абарваў Гарадзецкага і, замест Лермантава, перайшоў на Блока. Часамі ён цэлымі гадзінамі дэклямаваў мілых яго сэрцу расейскіх поэтаў і тады была адна толькі рада:

— Алесь, скрыпку!—крычу я старшаму настаўніку весялоўскае камуны. Алесь пачынае іграць які небудзь раманс і Жылка адразу сьціхае.

Пабеларуску Жылка тады ня пісаў, да чаго я стараўся заахвоціць яго, чуючы, што яго любоў да поэзіі мусіць выклікаць у ім парыў да напісаньня чаго-небудзь.

Першы яго верш прыпамінаю сабе ўжо ня то ў тыднёвіну „Рунь", выходзіўшым пад рэдакцыяй Купалы пры палякох у 1920 годзе; ня то ў газэце „Звон"; верш кароценькі, лірычны, крыштальна адшліфованы.

Пражываў у падвальнай кватэры і стары загадчык двара Весялоўкі; бальшавікі ўсё зьбіраліся яго выселіць, лічачы, відаць, беднага банкірскага аканама небясьпечным контр-рэвалюцыянэрам. Неяк у адзін вельмі цёплы летні вечар чалавек гэты вярнуўся з гораду вельмі сумны, зайшоў у пакой, дзе былі мы з Жылкаю, і расказаў, як ён дачуўся, што ўночы Чэка мае яго выкінуць з двара. Было даволі позна. Разьвітваюся з Жылкай і аканамам. Хачу вяртацца ў горад.

— Куды ты ўночы папрэш?—стрымлівае Жылка, — плюнь, цябе-ж не зачэпяць...

Але я рашуча кірнуюся да дзьвярэй. Жылка бярэ шапку і выходзіць разам.

— Давай пераначуем на лоне прыроды,—прапануе ён.

*Краўцоў Макар.*

(Працяг будзе).

